

Беларускі ПЭН Цэнтр

# Культурны супрацiў у Беларусі

**выпуск 10 (23)**

**16 сакавіка 2021**

***Ёсць вершы, якія не губляюць актуальнасці, навіны, якія разбіваюць сэрца, і разуменне таго, што мы мусім рухацца наперад, каб вершы пра нашую барацьбу за волю засталіся ў мінулым, а нашыя сэрцы маглі напаўняцца радасцю.***



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ЗАТРЫМАННІ, ПРЫСУДЫ, ПЕРАСЛЕД



**Максім Знак, адвакат, паэт і музыка, сябра штаба Віктара Бабарыкі, палітзняволены, затрыманы 9 верасня, застаецца за кратамі да 9 траўня.  Яго абвінавачваюць па Арт. 361 ч. 3 Крымінальнага Кодэкса РБ (заклік да дзеянняў супраць нацыянальнай бяспекі), Арт 357 ч. 1 (змова з мэтай захопу ўлады) і Арт. 361 ч. 1 (стварэнне экстрэмісцкага фарміравання альбо кіраванне ім).**

**Сяргею Ціханоўскаму прад'явілі канчатковае абвінавачванне па чатырох артыкулах:**
**ч. 1 арт. 293 (арганізацыя масавых беспарадкаў);**
**ч. 3 арт. 130 (распальванне сацыяльнай варожасці);**
**ч. 2 арт. 191 (перашкода працы ЦВК);**
**ч. 1 арт.342 (арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак).**
**Санкцыя найбольш цяжкага артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 15 гадоў.**






**Анастасія Перавошчыкава, якая знаходзіцца ў зняволенні з канца студзеня 2021 (яе судзілі 7 разоў запар, кожны раз на 15 сутак – разам гэта 105 сутак), прызнаная палітзняволенай.**

**Ігар Банцар, музыка, актывіст трымае «сухую» галадоўку з 3 сакавіка.**
**12 сакавіка адбылося чарговае паседжанне па яго справе, ён прасіў у судзе змяніць яму меру стрымання і выпусціць з-пад варты, аднак суддзя не задаволіў ягонага хадайніцтва.**
**Наступнае паседжанне па яго справе прызначылі на 18 сакавіка, патэнцыйна 16-ы дзень галадоўкі.**



Фота: svaboda.org

**28 лютага**

**Польскі консул у Берасці Ежы Цімафеюк узяў удзел у імпрэзе, прысвечанай Дню «выклятых жаўнераў». Удзелам у гэтай імпрэзе Ежы Цімафеюк нібыта парушыў Венскую канвенцыю пра консульскія зносіны.**

**9 сакавіка**

**У сувязі з гэтым часовага паверанага ў справах Польшчы Марціна Вайцяхоўскага выклікалі ў МЗС Беларусі.**

**10 сакавіка**

**У адказ Польшча абвясціла дыпламата з Амбасады Беларусі ў Варшаве персонай нон грата.**

**10 сакавіка**

**Пракуратура Брэста ўзбудзіла крымінальную справу «па факце гераізацыі ваенных злачынцаў».**

**11 сакавіка**

**МЗС Беларусі паведаміў Вайцяхоўскаму аб немэтазгоднасці прысутнасці на тэрыторыі краіны яшчэ двух польскіх дыпламатаў – кіраўніка і консула Генеральнага консульства Польшчы ў Гродна.**

**12 сакавіка**

**Ганна Панішава, дырэктарка «Польскай школы», была затрыманая, калі вярнулася ў Беларусь з рабочага візіту ў Польшчу.**



**12 сакавіка**

**МЗС Польшчы паведаміла пра высылку двух беларускіх консулаў – з Варшавы і Беластоку.**

14 сакавіка
на святкаванні Масленіцы ў Мінску
былі затрыманыя некалькі чалавек.





Ігар Лосік, журналіст, блогер,
палітзняволены, абвясціў аб пачатку
«сухой» галадоўкі 11 сакавіка.



Наталля Хершэ, мастачка,
палітзняволеная, якая галадала з 22
лютага, 12 сакавіка спыніла галадоўку.









Лізавета Ганчарова, мастачка,
затрыманая 13 сакавіка разам з татам.
15 сакавіка ім прысудзілі 15 сутак
адміністратыўнага арышту.





У Брэсце 15 сакавіка
яшчэ дзесяць чалавек асудзілі па
«справе карагодаў». Ім прызначылі
пакаранне ад 1,5 года хатняй хіміі
да 1 года і 8 месяцаў калоніі.
Журналістаў не пусцілі на
абвяшчэнне прысуду.

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, ЗАБАРОНЫ

**Аляксандра Памідорава, музыку, шоўмэна і радыёвядоўцу, 10 сакавіка выклікалі па тэлефоне на допыт у Дэпартамент фінансавых расследаванняў. Ён запатрабаваў, каб даслалі позву.**



**Выставу «Танцтэатр у тэатры» балетмайстаркі Гродзенскага драмтэатра Вікторыі Бальцар, якая ўдзельнічала ў праектах, што ладзяцца на адзінай незалежнай культурніцкай пляцоўцы Гродна «Цэнтр гарадскога жыцця», забаранілі праводзіць у памяшканні тэатра. Таксама з Вікторыяй не працягваюць кантракт.**



# 3. СІМВОЛІКА

**Барацьба сістэмы з усім, што звязана з бел-чырвона-белымі колерамі,
набывае ўсё болей абсурдныя формы.
Суды не спыняюць працу нават на выходных:
у нядзелю 7 сакавіка Аляксандра Даніліна,
якога затрымалі ў ноч з 6 на 7 студзеня, калі ён вешаў стужачкі ў Бараўлянах,
суд пакараў 15 суткамі адміністратыўнага арышту.
У нядзелю закрытыя судовыя паседжанні прайшлі мінімум у трох судах,
на суткі адправілі як мінімум чатырох чалавек.**



Фота: mff.by

**Павел Севярынец папрасіў мітрапаліта Веніяміна заступіцца за бел-чырвона-белы сцяг.**



# 4. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ

**Вольны хор** **выканаў гімн** **«Мы выйдзем шчыльнымі радамі», адзін з сімвалаў БНР, якія сёння набыў новую актуальнасць.**






**«Словы мацней»:**
**музыка і фронтмэн гурта Gods Tower** **Лэслі Найф** **чытае** **верш Вацлава Ластоўскага «Чала я не хіліў прад сілай».**




**LIVE** **Маргарыты Ляўчук** **і** **Андрэя Павука** **ў рамках фестывалю** **Артысты Перамогі** **прайшоў 13 сакавіка ў падтрымку беларускіх творцаў, якія пацярпелі за сваю грамадзянскую пазіцыю. Маргарыта Ляўчук стала яскравым сімвалам пратэсту-2020. З-за сваёй актыўнай пазіцыі вымушана была пакінуць Беларусь.**
**Андрэй Павук – грамадскі актывіст, неаднаразова з надуманых падставаў прыцягваўся ўладамі да адміністрацыйнай адказнасці. Восенню 2020 ён разам з сям'ёй не змог вярнуцца ў Беларусь праз пераслед.**



**Вакалістка гурта Shuma** **Руся**, **якая ў мэтах бяспекі з'ехала з Беларусі ў 2020 годзе, выпусціла** **кліп** **не песню Dreva – старажытную беларускую малітву. Ролік быў створаны ўкраінскімі калегамі на знак салідарнасці з Беларуссю.**

**Неабыякавыя гарадзенцы выпусцілі серыю паштовак з выявамі палітвязняў, што ўтрымліваюцца ў турме №1 Гародні.**




**Ілюстрацыі Лізаветы Ганчаровай**










# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Генадзь Гаранскі,  акцёр мінскага Тэатра юнага гледача, пра тое, <u>як выжываюць акцёры тэатра і што змянілася ў тэатры</u> за апошні час.**
**«ТЮГ цяпер выйшаў на новы ўзровень у плане працы. Уладзімір Савіцкі падтрымлівае ініцыятыву рэжысёраў, пагаджаецца на эксперыменты з матэрыялам. Светлавікі падыходзяць да акцёраў удакладніць кропкі іх выхадаў, каб больш дакладна ўстанавіць святло. Гукавікі перапытваюць у рэжысёра, адкуль лепш музыку пусціць: з парталаў, на сцэне, з сураўндаў. А манціроўшчыкі гатовыя не толькі дэкарацыі ўсталяваць, але забрацца на каласнікі, каб дапамагчы выканаць неабходны для мізансцэны трук. Адчуўшы, як цяперашнім гледачам неабходны тэатр, мы і напраўду сталі адзінай камандай».**

Фота: tut.by




**Ігар Банцар у лістах з няволі <u>піша</u>:**
***«Безумоўна, усе людзі розныя. Нават аднаяйцавыя блізняты адрозніваюцца між сабой. Адзінае, што ўсіх нас яднае, – факт, што ўсе мы ёсць жывымі істотамі: з пачуццямі, думкамі, марамі, памкненнямі і г.д.***
***Прыемна ведаць, што людзей добрай волі (такіх розных) у нашай краіне дастаткова».***



**Музыкі дуэту VAL  Лера Грыбусава і Улад Фрайман, якія меліся прадстаўляць Беларусь на «Эўрабачанні», але былі выключаныя з удзелу за палітычную пазіцыю.**
***«<u>Мы хацелі б прадстаўляць свабодную краіну</u> і праспяваць песню пра падзеі ў Беларусі, пра тое, што нас цяпер хвалюе, што адбываецца вакол нас. Вы ж разумееце, што Белтэлерадыёкампанія ніколі б не дала нам права такім чынам сябе прадставіць».***

Courtesy photo

# 6. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

**Фатографка Надзея Бужан стала фіналісткай самага прэстыжнага конкурсу прафесійнай фатаграфіі ў свеце – World Press Photo. Здымак, на якім Вольга Севярынец з кветкамі чакае мужа пад Акрэсціна, трапіў у спіс найлепшых у намінацыі spot news (гарачыя навіны). Пераможцаў конкурсу абвесцяць 15 красавіка.**




**У Варшаве прайшоў монапікет у падтрымку Ігара Банцара.**



# 7. ЕЎРАБАЧАННЕ

Eurovision
SONG CONTEST

**9 сакавіка стала вядома, што Беларусь на «Еўрабачанні-2021» прадставіць баранавіцкі гурт «Галасы ЗМеста», які ў сваіх песнях кпіць з пратэстоўцаў і іх лідараў. Эксперты Eurovoix, аднаго з найбуйнейшых навінных сайтаў, якія асвятляюць конкурс Еўрабачанне, заявілі, што песня парушае правілы конкурса, таму што мае палітычныя падтэксты, і адмовіліся асвятляць удзел Беларусі ў конкурсе. Еўрапейскі вяшчальны саюз праверыў песню на адпаведнасць правілам конкурсу і паведаміў Белтэлерадыёкампаніі, што ў тым выглядзе, у якім ёсць цяпер, яна не можа прадстаўляць Беларусь на «Еўрабачанні 2021».**



